

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№ 505 Люты 2005 г.
Год выданьня 55

## Супраць дыктатуры і этнацыду




Каля штаб-кватэры Аб'еднаных Нацыяў на 1-й Авэню і 44-й вуліцы на Мангэтане 24 студзеня 2005 году, прайшоў пікет, ладжаны нью ёркаўскім аддзелам БАЗА, супраць ігнараваньня нормаў дэмакратыі, парушэньня правоў чалавека, этнацыду беларускага народу і палітыкі дзяржаўнага антысэмітызму, што праводзіць рэжым Лукашэнкі ў Беларусі. Пікет быў прымеркаваны да Сэсіі Генэральнай Асамблеі Аб'еднаных Нацыяў, што ўшанавала памяць вязьняў Асьвенціму і ахвяраў нацыстоўскага генацыду. Сярод ахвяраў Асьвенцыму ды іншых лягераў сьмерці было шмат дачок і сыноў беларускай зямлі. Нашмат болей загінула ў Беларусі, у сваіх родных мясьцінах, спаленыя жыўцом падчас антыпартызанскіх акцыяў або расстраляныя за тое, што нарадзіліся гэбраямі.Большасьць краінаў Эўропы, дзе 60 год таму яшчэ курэлі руіны Другой сусьветнай вайны, дабіліся свабоды і цяпер, вольныя і дэмакратычныя, сьвяткуюць сваё вызваленьне ад нацызму, а таксама новаздабытую свабоду, як сястра і суседка Беларусі — Украіна.

Але адная краіна ў цэлай Эўропе ўсё яшчэ застаецца паняволеней і пакутуе пад уціскам таталітарнай дыктатуры. Гэтая краіна — наша Беларусь.

У мінулым годзе Кангрэс Злучаных Штатаў Амэрыкі прыняў Акт аб Дэмакратыі ў Беларусі, скіраваны на падтрымку дэмакратыі, правоў чалавека і панаваньня закону ў Беларусі. Акт прадугледжвае таксама санкцыі супраць вядучых асобаў рэжыму Аляксандра Лукашэнкі, які выяўляў аб сваіх сымпатыях да найвялікшых душагубаў стагодзьдзя — Гітлера і Сталіна, і мае ў сваіх сябрах адыёзных асобаў кшталту Кадафі й Садама Хусэйна, прыцiскае канстытуцыйныя свабоды сваіх грамадзянаў, садзейнічае дзяржаўнаму антысэмітызму і росквіту расейскага шавінізму.

Сёньня, 60 гадоў пасьля вызваленьня сьвету ад нацызму, беларускі народ не свабодны. Беларускі народ ня можа браць удзел у свабодных і адкрытых выбарах. Беларускі народ ня мае магчымасьці разьвіваць сваю мову, сваю культуру. Беларускі народ чуе хлусьню і прапаганду зь дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, што працуюць на чужой мове. Беларускі народ пастаўлены ў цяжкія дэмаграфічныя ўмовы, ён выміраe.

З пратэстам супраць антынароднай палітыкі рэжыму Лукашэнкі, што застаўся апошняй дыктатурай у Эўропе, выступілі ўдзельнікі пікету 24 студзеня каля будынку ААН. Лунаді бел-чырвона-белыя сьцягі, на плякатах было напісана: "Беларусь мае дзьве бяды: Чарнобыль і Лукашэнку", "Аранжавая рэвалюцыя – у Беларусь!", "Мы хочам свабоднай, дэмакратычнай Беларусі!", "Спыніць этнацыд у Беларусі!". Пікетоўцы скандавалі лёзунгі: "Спыніць дыктатуру!", "Дэмакратыю ў Беларусь!", распаўсюджвалі ўлёткі сярод мінакоў і удзельнікаў Генэральнай Асамблеі ААН.

*Віталь ЗАЙКА*

## Вяртаньне мецэнатаў

Позьняя вясна 2004 году. Летувіска-беларуская мяжа. Чарга на аўтапераезьдзе. Побач сталі дзьве машыны. У адной зь Вільні вярталіся сьведамыя беларусы, у другой з паездак па крамах і рэстарацыях Летувы - заможныя беларусы. Цёплае надвор'е, надвячорак, усе выйшлі з машынаў і размаўляюць на вуліцы. Заможныя беларусы нападпітку і ў добрым гуморы ад адпачывальнай паездкі, пачулі размову па-беларуску і зацікавіліся сьведамымі. Падчас нязмушанай размовы самы салідны заможны беларус запытаў, а адкуль сьведамыя бяруць грошы на свае выданьні, канфэрэнцыі, выставы? Сьведамы: "Дзелавыя людзі, пасьля таго як дасягаюць пэўнага ўзроўню дабрабыту, пачынаюць клапаціцца пра родную культуру і ўкладаць у яе грошы". Гэты адказ настолькі закрануў заможнага, што той задуменны пайшоў і сеў у сваю машыну.

У лістападаўскім нумары "Беларуса" была надрукаваная рэцэнзія на новы дыск "Скарбы ліtвінаў" гурта старадаўняй музыкі "Стары Ольса". Рэцэнзія добрая, але яна ніводным словам ня згадвае чалавека, дзякуючы якому выйшаў гэты альбом. А менавіта ў такой вялікай і прэстыжнай газеце беларускай дыяспары, як "Беларус", было неабходна апісаць цікавую зьяву беларускай культуры – мецэнацтва беларускай дыяспары, накіраванае і на падтрымку культуры ў Беларусі.

Дыяспара любой нацыі адыгрывае вялікую ролю ў разьвіцці грамадзтва, культуры й бізнэсу сваёй Айчыны. Беларуская-ж дыяспара штучна ізаляваная ад Беларусі на падставе адрозьненьня поглядаў з сёньняшнімі ўладамі на гісторыю і будучыню сваёй краіны. У той-жа час беларускі шоў-бізнэс не выходзіць пакуль з зародкавага стану – існуе ў выглядзе напаўсамадзейнай "эстрады", падкормленай бюджэтам і прафільтраванай дзяржаўнымі цэнзарамі. У гэтым зародкавым арганізме адсутнічае прафэсыйнае прадзюсарства, як інвэстыцыі з дакладным плянам прамоўшэна і продажу шоўпрадукта. У гэтым зародкавым "эстрадным" арганізме адсутнічае таксама і інстытут мецэнацтва – вольны густоўны адбор музыкі й фінансаваньня праектаў, якія даспадобы гурманам мастацтва.

Сёньняшняя беларуская культура закрытая ад вольных укладаньняў у яе – дзяржава бярэ да 30% падаткаў ад пералічанай сумы. І тут праз шматлікія заслоны прабіўся чалавек, які лічыць справай гонару падтрымку беларускіх ініцыятываў у літаратуры й музыцы – Ірэна Каляда-Сьмірноў (хаця літаратура і музыка далёка не вычэрпваюць накірункаў яе мецэнацкага ўкладаньня). Гэты артыкул выкліканы вялікай удзячнасьцю і высокай асабістай сымпатыяй да спн. Ірэны. Аздараўленьне дзяцей, выданьне кніг, запіс і тыражаваньне музыкі – толькі пачатак пераліку падтрыманых творчых і гуманітарных ідэй. Адзіная нязьменная рыса ўсіх падтрыманых спн. Ірэнай пачынаньняў – загартаваны патрыятызм і мастацкая арыгінальнасьць. Гэтыя дзьве рысы (беларускасьць і навізна) мецэнацтва спн. Ірэны – складаюць ужо пэўны пласт у новай гісторыі Беларусі: першыя зборнікі дзіцячых сачыненьняў аб Радзіме, першы мастацкі пераклад Фёдара Дастаеўскага на беларускую мову, першы аўдыёзапіс старабеларускай мовы Статута ВКЛ ды іншае.

Гісторыя мецэнацтва Беларусі пакуль не сыстэматызаваная і не надрукаваная, але ў многіх дасьледваньнях можна прачытаць пра высакародныя ўчынкі нашых продкаў, накіраваныя на падтрымку айчыннага мастацтва. Сьпіс можна пачынаць ад Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай, праз усе стагодзьдзі прыйсці да эпохі Рэнесансу, калі мецэнацтва магнатаў і шляхты прывяло да шыкоўнага мастацтва і дойлідства, дайсьці да мецэнацтва XVIII ст., прасачыць творчыя ініцыятывы беларускіх дзеячаў XIX ст., прагледзець станаўленьне Беларускага Адраджэньня ў пачатку XX ст., а потым прыйсьці да мецэнатаў XX – пачатку XXI ст.

Мецэнацтва, як некамэрцыйнае ўкладаньне, – неабходная ўмова разьвіцьця многіх відаў мастацтва і адкрыцьця новых імёнаў. Асобныя часткі культуры ня ў стане існаваць без "гуманітарнай дапамогі". Такімі зьяўляюцца, напрыклад, усе новыя, маладыя віды мастацтва; яны ніколі не бываюць выгоднымі і маюць у сваім разьвіцці толькі адну крыніцу выжываньня – мецэнацтва.

Тое-ж адбываецца зараз з маладым для Беларусі (як, дарэчы, і для многіх краінаў Эўропы) стылем музыкі, які ў шырокім сэнсе называюць "мэдываль" – сярэднявечныя балады, танцы й пьесы. Гэты стыль мае некалькі прынцыповых патрабаваньняў да сваіх выканаўцаў – музыка 13-17 ст., агучаная на копіях тагачасных інструмэнтаў (стыль дапускае стварэньне некаторай колькасьці новых мэлёдыяў у жорсткіх межах сярэднявечнага стылю). Музыка стылю мэдываль у Беларусі – нязьменная крыніца патрыятызму, бо даказвае, што наша краіна ў часы Сярэднявечча і Рэнесансу мела высокаразьвітае мастацкае асяродзьдзе.

Гуртоў стылю мэдываль у Беларусі ў апошнія часы амаль не было. Толькі ў апошні год зьявілася новая генэрацыя музыкаў. Яны ў большасьці выпадкаў выйшлі з рыцарскіх клюбаў, дзе доўгі час біліся на турнірах, а зараз узялі ў рукі музычныя інструмэнты: "Стара Літва", "Ліцьвінскі хмель", "Верхні горад", "Вайдалот", "Осіміра", "Герфункер" і інш. Некаторыя зь іх ня здолеюць вытрымаць напружаньня, зь якім сутыкаюцца ўсе гурты ў першыя гады творчасьці. Але тыя, хто выжывуць – сутыкнуцца з новай хваляй праблемаў: дзе замовіць добрыя строі, дзе набыць вартыя інструмэнты, дзе знайсьці сталую рэпэтыцыйную залю, як рэгулярна займацца рэклямай, і, нарэшце, як аплаціць студыю для запісу музыкі. Дзякуючы падтрымцы Згуртаваньня "Бацькаўшчына", настойлівасьці й працаздольнасьці музыкаў, мэнэджэраў Беларускай музычнай альтэрнатывы і падтрымцы мецэнатаў (у тым ліку Ірэны Каляды-Сьмірноў) гурт "Стары Ольса" дасягнуў свайго 5-гадовага юбілею, прэзэнтуючы 6-ты альбом, маючы аншлягі на танцавальных і канцэртных выступах. (Беларусь можа стаць першай краінай у Еўропе, дзе канцэрты строй акустычнай музыкі зьбіраюць больш аматараў, чым музыкі сучаснай электроннай.) Вопыт гэтага выжываньня, вопыт працы з музычным матар'ялам, сувязі са студыямі й мэнэджэрамі зараз гурт перадае маладым, бо робім адную справу на гонар адной краіны.

Дзякуючы "Бацькаўшчыне" гурт "Стары Ольса" ў 2-гадовым сваім ўзросьце пазнаёміўся

*Працяг на бачыне 5*

# Пікет у Бруксэлі

У Бруксэлі праходзіла 30 студзеня 2005 году акцыя "Свабоду Міхаілу Марынічу!" Справа гэтага палітыка была сфабрыкаваная уладамі, і ён атрымаў 5 гадоў зьняволеньня. Марыніч мог быць даволі пэрспэктыўным супернікам Лукашэнку на наступных прэзыдэнцкіх выбарах, бо карыстаўся падтрымкаю пэўнай часткі намэнклятуры й меў сувязі ў Маскве.

У сталіцы Эўрапейскага Зьвязу сабраліся людзі, лёс якіх закінуў за межы роднай Беларусі. Былі прадстаўнікі розных палітычных партыяў, людзі неабыякавыя да таго, што адбываецца на Бацькаўшчыне. Арганізаваў акцыю Беларускі Цэнтар у Бэльгіі. Шмат працы зрабіла адная з кіраўнікоў Цэнтру Галіна Мацюшына.

Пікет праходзіў у цэнтры Бруксэля. Пікетоўцы стаялі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі й партрэтамі Марыніча ды зьніклых раней беларускіх палітыкаў. Былі ўзьнятыя таксама сьцягі Эўразьвязу і Бэльгіі – краіны, што дала прытулак людзям, якія ня згодныя з рэжымам Лукашэнкі.

Да пікетоўцаў падыходзіў афіцэр службы бясьпекі спытаць пра дазвол на акцыю і болей ніякіх пытаньняў не было.

*Мікалай РАМАНАЎ*

# Памяці Адама Станкевіча

У сядзібе Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве 8 студзеня 2005 году адбылася вечарына, прысьвечаная памяці ксяндза Адама Станкевіча - ахвяры бальшавіцкага тэрору.

Пра патрыятычную дзейнасьць для беларускай справы, якой прысьвяціў усё сваё сьвядомае жыцьцё кс. Адам Станкевіч, распавёў сябра ТБК журналіст Алесь Адамковіч. У прыватнасьці было адзначана: пасьля заканчэньня вышэйшай духоўнай акадэміі ў Пецярбурзе ў 1918 годзе, Адам Станкевіч вярнуўся ў Вільню і быў прызначаны выкладчыкам закону ў гімназіі. А. Станкевіч таксама актыўна ўдзельнічаў у існуючых на той час беларускіх арганізацыях і выдавецтвах, а некаторыя і ўзначальваў. За яго беларускасьць польскімі ўладамі неадночы перасьледаваўся і бываў пакараны. Адам Станкевіч пакінуў багатую літаратурную і публіцыстычную спадчыну. За служэньне беларусам, за сваю адданасьць ідэі незалежнасьці і свабоды для Беларусі А. Станкевіч у 1949 годзе быў паўторна арыштаваны бальшавіцкімі ўладамі і асобнай нарадай МДБ СССР засуджаны на 25 гадоў лягераў з канфіскатай маёмасьці. У Озёрлагу Брацку, празь няпоўных тры месяцы, на 58 годзе жыцьця А. Станкевіч памёр.

Хведар Нюнька зачытаў некаторыя матар'ялы допытаў А. Станкевіча з архіву КДБ у Вільні.

Улічваючы вялікія заслугі кс. Адама Станкевіча перад беларусамі, Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве вырашыла ў 2005 годзе ўстанавіць на будынку былой Віленскай Беларускай гімназіі, прысьвечаную яму мэмарыяльную таблiцу з барэльефам.

На вечарыне са зьмястоўным і цікавым дакладам выступіў дырэктар Беларускага ліцэю ім. Якуба Коласа сп. Уладзімер Колас.

Пасьля мастацкай часткі сяброў ТБК за кубкам кавы госьці, якіх сабралося пад 40 чалавек, яшчэ доўга абменьваліся думкамі.

*Хведар НЮНЬКА*

# Ангельскія газэты пра Беларусь

Падчас і пасьля другога туру прэзыдэнцкіх выбараў ва Украіне ангельскі друк дзень у дзень шмат пісаў аб падзеях там, дэманстрацыях. Пішучы аб Украіне, карэспандэнты ўспаміналі й Беларусь.

Газэта "The Times" ад 25.11.2004 г. успамінае аб прысутнасьці ў Кіеве сп. Леха Валенсы, былога прэзыдэнта Польшчы і ляўрэата Нобелеўскай прэміі міру, чалавека, які зрабіў вельмі шмат для развалу камунізму ў Эўропе. Ён сказаў: "Калі Украіна ня будзе дэмакратычная, то Расея паглыне яе, як ужо зрабіла зь Беларусьсю. І тады мы будзем ізноў мець Савецкі Саюз, але больш небясьпечны гэтым разам." У выказваньні сп. Валенсы ёсьць шмат праўды.

Падчас украінскіх выбараў Расея падтрымала Януковіча, а заходнія краіны Юшчанку. "The Times" ад 26.11.2004 г. піша, што Захад не прызнаў перамогу Януковіча з-за шматлікіх фальсыфікацыяў. Аднак, як і можна было чакаць, Расея, Кітай і Беларусь гэтыя выбары прызналі "свабоднымі й дэмакратычнымі". Як бачым, ужо арганізавалася антызаходняя тройка. Цікава, як адчувалі сябе кіраўнікі гэтых дзяржаваў, калі Вярхоўны суд Украіны прызнаў выбары сфальсыфікаванымі й несапраўднымі?

У "The Times" ад 27.11.2004 г. Беларусь і сярэднеазіяцкія краіны называюцца "слабасхаванымі дыктатурамі, якія маюць толькі дэмакратычны фасад". У артыкуле ўзгадваецца, што Масква ўпарта ня хоча пагадзіцца зь незалежнасьцю былых рэспублік СССР і называе іх "блізкім замежжам", як быццам гэта не зусім чужаземныя краіны. Хочацца дадаць, што такі выраз павінен быць абразьлівым для краёў і народаў, якія уважаюць сябе незалежнымі.

Газэта крытыкуе прэзыдэнта Расеі Пуціна, які "бяссорамна і адкрыта падтрымлівае кандыдатаў накшталт Януковіча".

29.11.2004 г. у газэце "The Times" быў доўгі артыкул пад назваю "Чарнобыльскія дзеці спатыкаюцца з забаронаю ад "шкоднай" Брытаніі". Трэба ўдакладніць, што забарону хоча ўвесьці Беларусь, а не Вялікая Брытанія. Штогод у Вялікабрытанію прыяжджае шмат беларускіх дзяцей на аздараўленьне. Гэтыя дзеці, пераважна, нявінныя ахвяры Чарнобыльскай катастрофы. Дзеці як дзеці, хочуць паехаць замяжу і пабачыць сьвет. І хоць яны зусім маладзенькія, але заўважаюць розьніцу ў жыцьці на Захадзе і ў іхняй роднай краіне. Вярнуўшыся дахаты, яны, напэўна, расказваюць, што бачылі, і як людзі жывуць замяжой. Людзям пры ўладзе ў Беларусі такое не падабаецца і здаецца шкодным вірусам. А вірусы, як вядома, трэба вынішчаць, каб не заражалі беларускае грамадзтва "заходнімі думкамі". І дзеля гэтага Лукашэнка не згаджаецца з выездам беларускіх дзяцей замяжу на аздараўленьне. Ён заатакаваў спажывецкія ўплывы Захаду на дзяцей, якія псуюць беларускую моладзь, і сказаў: "Толькі ў надзвычайных выпадках мы павінны дазваляць нашым дзецям выяжджаць замяжу. Ці-ж Вы ня бачыце, у якім стане дзеці вяртаюцца? Яны вяртаюцца зусім іншымі людзьмі..." Нажаль, газэта не ўдакладняе, што маецца на ўвазе пад словам "іншымі".

Як вядома, ЗША і Эўразьвяз з прычыны зьнікненьня беларускіх апазыцыянэраў забаранілі ўезд да сваіх краёў некаторым высокім беларускім урадоўцам. Быць можа сп. Лукашэнка спрабуе ўзяць за гэта рэванш, забараняючы хворым беларускім дзецям аздараўляцца за мяжою? З такой забароны, калі яна будзе, будуць цешыцца бацькі расейскіх і ўкраінскіх дзяцей, бо тады іхнія дзеці будуць мець лепшыя магчымасьці паехаць на аздараўленьне.

Калі Захад псуе беларускіх дзяцей, то хіба не псуе беларускіх турыстаў, спартсмэнаў, бізнэсоўцаў. Можа і ім трэба забараніць выезд зь Беларусі? Да чаго гэта давядзе?

30.11.2004 г. у "The Times" ізноў быў доўгі артыкул пра Украіну і прэзыдэнта Пуціна. Успамінаецца там і Беларусь: "... Пуцін даў падтрымку для колішніх камуністычных кіраўнікоў, такіх як Аляксандар Лукашэнка ў Беларусі. Гэтыя кіраўнікі з ахвотаю адкінулі дэмакратызацыю і скупіліся пад маскоўскім парасонам..."

У артыкуле ў гэтай-жа газэце ад 04.12.2004 г. пішацца аб праблемах Расеі ў былых савецкіх рэспубліках. Так, Летува, Латвія і Эстонія ўжо ўступілі ў НАТО і Эўразьвяз, амэрыканскія войскі стаяць у Узбэкістане і Грузіі, Азэрбайджан варожа настаўлены да Расеі, нават калісь ляяльная Армэнія пачынае сумнявацца ў слушнасьці сваіх адносінаў з Расеяй. Зацытуем параграф аб Украіне і Беларусі:

"Перамога сп. Юшчанкі будзе ўспрынятая цьвердалобымі ў Маскве як першы крок Украіны да ўступленьня ў НАТО і Эўразьвяз. З такім ходам справаў Расея застанецца толькі з адным саюзьнікам у гэтых краёх – Лукашэнкам у Беларусі; а гэта ўжо слабасуцяшальны вынік."

Цяжка наракаць, што ў Беларусі няма пасьпяховых бізнэсоўцаў, але зь іх посьпехаў карыстаюць толькі яны самыя, а ня ўсе грамадзяне. "The Times" 11.12.2004 г. піша: "Летувіскія памежнікі знайшлі трохкіляматровую плястыкавую трубу праз якую перакачвалі гарэлку зь Беларусі. Труба была закапаная ў зямлю і праходзіла пад дарогаю, па дне ракі, каб выйсьці ў доме каля Эйшышак у Летуве. Гэта ўжо чацьвёрты раз, як знайшлі падобную трубу."

У ангельскіх газэтах часта ўспамінаюць тэнісістку Марыю Шарапаву. Хваляць яе ігру і прыгажосьць. Падаюць таксама, што па нацыянальнасьці яна расейка. Варта ўспомніць пра паходжаньне гэтай тэнісісткі. Яе бацькі, Алена і Юры, родам з Гомля. Хутка пасьля Чарнобыльскай аварыі Алена зацяжарыла. У боязьні, што радыяцыя пашкодзіць дзіцяці, маладая сям'я выехала ў Сібір, дзе і нарадзілася цяперашняя зорка тэнісу Марыя. Магчыма беларускія карані Шарапавай былі прычынаю выказваньня другой расейскай тэнісісткі Сьвятланы Кузьняцовай, калі яна сказала, што не ведае, ці можна называць Марыю Шарапаву расейскай дзяўчынай. Дзеля таго, што Марыя Шарапава і яе бацькі цяпер жывуць у ЗША (Флёрыда), было-б някепска, каб хто з амэрыканскіх беларусаў пацікавіўся гэтай сям'ёй.

Падчас рэфэрэндуму ў Беларусі 17.10.2004 году беларускую амбасаду ў Лёндане пікетавалі моладзь і студэнты (ангельцы) ад лібэральна-дэмакратычнай партыі. Яны раздавалі ўлёткі, у якіх было, між іншым, наступнае: закіды й нараканьні на А. Лукашэнку, інфармацыя пра забарону апазыцыйным кандыдатам браць удзел у выбарах, ганеньні на СМІ, ужываньне сакрэтных спэцслужбаў для сачэньня і запалохваньня грамадзянаў. Ва ўлётцы напісана: "Мы дамагаемся новых, адкрытых і справядлівых выбараў нова беларускага парляманта і асуджаем рэфэрэндум, які мае зьмяніць Канстытуцыю, каб дазволіць сп. Лукашэнку ўдзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах."

*Апрацаваў Міхась ШВЭДЗЮК*

# Асацыяцыя беларускіх гэбраяў пратэстуе

У час правядзеньня спэцыяльнай сэсіі Генэральнай асамблеі Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў у Нью Ёрку 24 студзеня 2005 году, прысьвечанай 60-годзьдзю вызваленьня вязьняў нацыстоўскіх канцэнтрацыйных лягераў, прадстаўнікі Сусьветнай Асацыяцыі Беларускіх Гэбраяў (САБГ) уручылі асабіста міністрам замежных справаў Францыі – Мішэлю Барнье, Фэдэратыўнай Рэспублікі Нямеччыны – Ёшцы Фішэру, іншых дзяржаваў пакет інфармацыі аб дзяржаўным антысэмітызме ў Беларусі. Такі-ж пакет інфармацыі атрымалі ў рукі ўпаўнаважаны па правах чалавека Расейскай Фэдэрацыі Ўладзімер Лукін, спэцыяльны амбасадар Польшчы Бранiслаў Герэмек. Інфармацыя аб дзяржаўным антысэмітызме ў Беларусі была перададзеная непасрэдна ў залі паседжаньняў Генэральнай асамблеі ААН прадстаўнікам эўрапейскіх краінаў, Канады, ЗША, Ізраіля, іншых краінаў-сябраў ААН.

САБГ зрабіла спрабу раскрыць плякат "Спыніце дзяржаўны антысэмітызм у Беларусі" ў голе будынку ААН. Гэтая акцыя была спыненая службаю бясьпекі ААН у зародку. Ахоўнікі дзейнічалі хучэй і эфэктыўней за менскі АМАП пры правядзеньні пікету ля будынку адміністрацыі прэзыдэнта Беларусі з пратэстам супраць дзяржаўнага антысэмітызму летась. Дзеяньні калегаў і аднадумцаў у Менску і Нью Ёрку супадаюць: былі рэквізаваныя плякаты. Удзельнікі акцыі пратэсту па рашэньню службы бясьпекі ААН пазбаўленыя права наведваньня будынку гэтай арганізацыі.

Упершыню САБГ прыцягнула ўвагу ААН да антысэміцкай прапаганды, зьнішчэньню сінагогаў, помнікаў ахвярам Галакасту, гэбрайскіх могілак у Беларусі ў час правядзеньня сэмінара па антысэмітызму ў ААН, які адкрываў Генэральны сакратар Коффі Анан, летам 2004 году. Заклік да супрацьдзеяньня не знайшоў свайго адказу. Прэзыдэнт САБГ Якаў Гутман уручыў 24 студзеня вышэйпамянёны пакет дакумэнтаў асабіста ў рукі старшыні сэсіі міністру замежных справаў Габона Жану Пінгу. Дакумэнты вярнулі праз 10 хвілінаў без разгляду.

Бязьдзеяньне ААН, а фактычна падбухторваньне дзяржаўнага антысэмітызму рэжыму Аляксандра Лукашэнкі яшчэ раз пацьвердзілі абвінавачваньні гэтай арганізацыі ў антысэмітызме.

*Прэс-служба САБГ*

# Беларусь за месяц

## Ланцуг па Марынічу

30 студзеня апазыцыя ў Менску зладзіла "Ланцуг неабыякавых людзей" у знак салідарнасьці з грамадзка-палітычным дзеячом, былым амбасадарам і міністрам Міхаілам Марынічам. Марыніч быў асуджаны 30 сьнежня Менскім гарадзкім судом на пяць гадоў пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці.

Каля 200 чалавек а 2-й гадзіне папаўдні сталі ўздоўж праспэкту Ф. Скарыны з партрэтамі Марыніча і зьніклых бязь вестак у 1999-2000 гг. Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Зьміцера Завадзкага ды памерлага пры загадкавых абставінах Генадзя Карпенкі. Гэтым разам нікога не затрымалі, а дзеячы апазыцыі паабяцалі ладзіць акцыі салідарнасьці ў падтрымку Міхаіла Марыніча і надалей.

## Прыпыненая дзейнасьць

Паводле слоў міністра інфармацыі Уладзімера Русакевіча (пасяджэньне калегіі міністэрства адбылося 28 студзеня) у 2004 годзе 81 пэрыядычнаму выданьню было вынесена 160 папярэджаньняў, а дзейнасьць 25 СМІ была прыпыненая.

Прычым, паводле міністра, папярэджаньні сталі "сьледствам масавых парушэньняў, выяўленых у ходзе рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў галіне сродкаў масавай інфармацыі". Таму ў дачыненьні да СМІ такія-ж дзейсныя захады будуць і "надалей рашуча і бескампрамісна ставіцца і на шляху якіх-бы не было спробаў абысьці закон ці выпрабоўваць нашае цярпеньне", — зазначыў спадар Русакевіч.

## Асудзілі Жураўкову

Былога кіраўніка справаў прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, колісь усемагутную Галіну Жураўкову прысудзілі да чатырох гадоў пазбаўленьня волі з канфіскацыяй маёмасьці й забаронай цягам наступных пяці гадоў пасьля адбыцьця пакараньня займаць кіруючыя пасады.

Вырак быў вынесены 8 лютага Вярхоўным судом. Самой Жураўковай у залі пасяджэньняў не было, па афіцыйнай вэрсіі, з прычыны хваробы. Але пракурор Мікалай Корзун прызнаў, што толкам ня ведае, дзе цяпер знаходзіцца былая кіраўнік справаў.

Жураўкова было прызнаная вінаватай паводле артыкулу Крымінальнага кодэксу крадзёж шляхам злоўжываньня службовымі паўнамоцтвамі, учыненае арганізаванай групай альбо ў вельмі вялікім памеры.

Па аналягічным артыкуле (210, ч. 4) быў асуджаны 65-гадовы Міхаіл Марыніч. Яго засудзілі на пяць гадоў пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці. Марыніча прызналі вінаватым у завалоданьні аргтэхнікай (кампутарамі), якая была бясвыплатна перададзеная амбасадаю ЗША ў часовае карыстаньне ўзначаленай ім грамадзкай арганізацыі "Дзелавая ініцыятыва".

Галіна Жураўкова і яе памагатыя перадалі грошай на суму 3 млн. 381 тыс. даляраў у якасьці пакрыцьця нанесенага дзяржаве ўрону.

## Працяг расколу сацыял-дэмакратаў

15 студзеня ў лесе пад Менскам прайшоў IX зьезд Беларускае сацыял-дэмакратычнае партыі ("Народная Грамада"), апанэнтаў Міколы Статкевіча. На зьезьдзе прысутнічалі 87 чалавек, сярод іх — 36 дэлегатаў ад пастаўленых на ўлік арганізацыяў і 20 сябраў Цэнтральнага камітэту і Цэнтральнае рэвізыйнае камісіі. Усяго ў БСДП налічваецца 85 арганізацыяў, зь іх 45 пастаўленыя на ўлік.

На зьезьдзе таксама прысутнічалі прадстаўнікі ад Беларускае сацыял-дэмакратычнае грамады (старшыня Станіслаў Шушкевіч). Было дамоўлена пра аб'яднаўчы працэс паміж двума плынямі БСДП. Вырашана 19 сакавіка склікаць пазачарговы Х зьезд для вырашэньня "пытаньня пра аб'яднаньне сацыялдэмакратычных сілаў Беларусі". Прычым БСДГ гатова на любых умовах далучыцца да Народнае Грамады – "шушкевічаўцы" пазбавіліся юрыдычнага адрасу, а значыць і права займацца палітычнай дзейнасьцю.

Кіраўніком БСДП 15 студзеня быў абраны кіраўнік Берасьцейскае абласное філіі, дацэнт Берасьцейскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Анатоль Ляўковіч, яшчэ нядаўна моцны прыхільнік Статкевіча.

Тым часам Статкевіч, праз два дні, склікаў у сваім офісе прэсканфэрэнцыю, дзе заявіў, што зьбіраецца далучацца ад Эўрапейскае кааліцыі "Свабодная Беларусь", якую падтрымліваюць "Хартыя-97", "Зубр" і "Малады фронт" ды зьбіраецца вылучацца ў прэзыдэнты.

Праблема беларускіх сацыялдэмакратаў у тым, што іх вельмі малая колькасьць. Добра, каб усіх: і прыхільнікаў Статкевіча, і апанэнтаў, і прыхільнікаў Шушкевіча (маецца на ўвазе актывістаў, а не мёртвых душаў) набралася пад паўтары тысячы.

## Выбяруць кандыдата

Сход дэмакратычных сілаў, які стане апошнім этапам кампаніі пошуку найлепшага кандыдата ад дэмакратычнае апазыцыі, заплянаваны на 29 траўня, і пройдзе ён хутчэй за ўсё ў Кіеве. Напачатку, у першай палове траўня, у шасьці абласьцях і Менску пройдуць рэгіянальныя сходы, якія вызначаць свайго прыярытэтнага кандыдата. Таксама трэба ўлічваць людзей, якія ўжо заявілі пра свой удзел у прэзыдэнцкай кампаніі 2006 — Андрэя Клімава, Міколу Статкевіча, Пятра Краўчанку ды Зянона Пазьняка.

Нацыянальны камітэт Аб'еднанай грамадзянскай партыі вылучыў у якасьці патэнцыйнага адзінага кандыдата Анатоля Лябедзьку. На пасяджэньні камітэту ён набраў 64 галасы з 80-ці. Ад АГП таксама разглядаліся кандыдатуры экс-міністра абароны Паўла Казлоўскага і акадэміка Аляксандра Вайтовіча.

Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада вылучыла ў якасьці "адзінага" Станіслава Шушкевіча, Партыя камуністаў Беларусі — Сяргея Калякіна.

## Вапу адмовілі ў візе

Беларускі консулят у Беластоку адмовіў у ўязной візе ў Беларусь кіраўніку Беларускага саюзу ў Беластоку, рэдактару беластоцкае газэты "Ніва" Яўгену Вапу. Сп. Вапа ў інтэрв'ю Радыё Свабодзе так пракамэнтаваў прычыну адмовы: "Я ацэньваю гэта як прызнаньне ролі, якую адыгрывае "Ніва" ў агульнабеларускім жыцьці. Мы стараемся рознымі спосабамі, праз артыкулы, закранаць розныя аспэкты жыцьця таксама і ў Беларусі. Адзначу, што тыднёвікаў, якія выходзяць цалкам на беларускай мове і падаюць беларускі погляд на падзеі, на сёньняшні дзень усяго два – гэта "Наша ніва" ў Менску і "Ніва" ў Беластоку. Так што ў гэтым, думаю, прычына візавай адмовы. Трэба было-б пра гэта пытацца ў консула, але, як вядома, паводле Жэнэўскай канвэнцыі, консуляты могуць не тлумачыць прычынаў адмовы".

## Гомельская трагедыя

2 лютага ў Гомлі адбылася страшная трагедыя. У радзільным доме цягам аднаго дня пасьля дзьвюх апэрацыяў кесарава сячэньня памерлі дзьве парадзіхі — 21-гадовая Інга Кармышава і 34-гадовая Натальля Кухарчык з Буда-Кашалёва. У першай засталося нованароджанае немаўля, у другой — пяцёра дзяцей.

Афіцыйная вэрсія трагедыі — замест кіслароду парадзіхі атрымалі велізарную долю вугляслага газу, які захоўваўся для зварачных работаў. Вінаватым прызналі 53-гадовага мэханікамашыніста, які паблытаў балёны розных колераў. Праводзіцца расьследаваньне.

Тым часам ўлады паклапаціліся пра далейшы лёс сем'яў памерлых. Сям'я Натальлі Кухарчык атрымае, апроч іншага, панэльны катэдж і матэр'яльную дапамогу, сям'я Інгі Кармышавай — аднапакаёвую кватэру ў Гомлі.

## У Іраку загінуў беларус

У студзені ў Іраку загінуў беларус — жаўнер амэрыканскага войска. Гэта — Віктар Елкін, які ў 1999 годзе выехаў у ЗША на заробкі. Ягонаю мэтаю было любым чынам застацца ў Штатах, дзеля гэтага ён у 24-гадовым узросьце ўзяў шлюб з 44-гадовай жанчынай. Потым пайшоў у войска, спачатку служыў на амэрыканскай базе ў Нямеччыне, потым — у Іраку. У сакавіку сканчаўся тэрмін ягонае службы. Елкіна пахаваюць у Нямеччыне, у Беларусі ў яго засталіся бацькі.

## Пражытачны мінімум

Пры канцы студзеня ў Беларусі ўсталяваны новы памер бюджэту пражытачнага мінімуму (БПМ) ў сярэднім на душу насельніцтва.

Паводле пастановы ўраду, цяпер БПМ у месяц у сярэднім складае 135 тысяч 150 рублёў ($62, ці 47 эўра). Да гэтага бюджэт пражытачнага мінімуму складаў 128 тысяч 860 рублёў. Разьлічаны таксама памеры БПМ для ўсіх катэгорый насельніцтва.

Для працаздольнага насельніцтва гэты паказчык усталяваны ў памеры 147 тысяч 780 рублёў ($68), для студэнтаў – 141 тысяча 710 рублёў ($65), для дзяцей ва ўзросьце ад трох да шаснаццаці гадоў — 146 тысяч 860 рублёў ($67,5).

БПМ (у дадзеным выпадку 135 тысяч 150 рублёў) разьлічваецца з улікам наступных відаў матэр'яльных дабротаў і паслугаў: прадукты харчаваньня, вопратка, бялізна, прадметы агульнасямейнага карыстаньня, лекі, прадметы санітарыі й гігіены, а таксама жыльлёва-камунальныя, транспартныя і бытавыя паслугі, паслугі дзіцячых дашкольных установаў.

## Сярэдні заробак — $200

У 2004 годзе сярэдні налічаны заробак (без уліку выплаты падаткаў) работнікаў у Беларусі ў даляравым эквіваленце павялічыўся на 44,1 адсоткі й склаў $200,4 (434,4 тыс. рублёў). У эўра сума сцыпліліся — на 32,2 адсоткі (147,1 эўра). Рэальны-ж заробак (рост зарплаты карэктуецца на рост спажывецкіх цэн) у рублёвым выражэньні павялічыўся на 26,8 адсоткаў. Спажывецкія цэны вырасьлі на 14,4 адсоткаў, афіцыйны курс даляра — на 0,6, эўра — на 9,7.

## 100-тысячная купюра

Нягледзячы на тое, што курс даляра і эўра да беларускага рубля застаецца найвышэйшым ў Эўропе (Турцыя з 1 студзеня 2005 году адрэзалі ад сваёй ліры шэсьць нолікаў), дэнамінацыі беларускага рубля ў бліжэйшы час пакуль не прадугледжваецца. Затое сёлета будзе ўведзеная ў абарачэньне новая купюра вартасьцю 100 тыс. рублёў. Пакуль невядома, што будзе на ёй адлюстравана.

## Набыткі краіны

Журы Нацыянальнага конкурсу "Брэнд году — 2004" прызнала брэнды "Гарызонт", "Атлянт", "Мілавіца", "Віцязь" і "МАЗ" — набыткамі краіны, бо менавіта гэтыя маркі годна рэпрэзэнтуюць Беларусь па-за яе межамі і спрыяюць яе іміджу.

*Уласны карэспандэнт*

# Едзе Лявон Вольскі

March, 15th. Exclusive gig in the USA
of the best known personality of contemporary Belarusian culture
Liavon Volski
(N.R.M., Krambabulia)

Вядомы беларускі музыка, лідэр гурту «N.R.M.» і «Крамбамбуля» Лявон Вольскі наведае ЗША з сольным канцэртам, які адбудзецца 15 сакавіка ў штаце Дэлявэр.

Нагадаем, што ўжо была спроба правесьці канцэрт у сьнежні 2004 году, але тады па невядомых прычынах Лявону Вольскаму было адмоўлена ў атрыманьні амэрыканскай візы. Толькі пасьля абурэньняў прыхільнікаў ягонае творчасьці Вольскі быў запрошаны ў амэрыканскую амбасаду на паўторную гутарку. І ўжо наступнага дня атрымаў пашпарт з паўгадавою візаю.

Па словах Лявона, канцэртная праграма будзе часткова складацца зь ягоных уласных песьняў, якія прагучаць упершыню. Таксама будуць песьні такі сумесных праектаў як «Народны Альбом», «Я нарадзіўся тут», гуртоў «НРМ», «Крамбамбуля».

«Гэтая падзея мае ўсе шанцы стаць адною з найгучнейшых для беларускіх эмігрантаў у Амэрыцы», — распавядае арганізатар канцэрту Андрэй Лобай. «Ужо пры першай спробе арганізацыі каля 300 чалавек з розных куткоў Злучаных Штатаў зарэзэрвавалі квіткі. Уваход вырашылі зрабіць абсалютова бясплатным. Для гэтага толькі трэба зарэгістравацца на спэцыяльным сайце **www.usa.slyhap.com.** Там таксама можна атрымаць любую інфармацыю, якая тычыцца канцэрту».

*www.usa.slyhap.com*

Усім нам даводзіцца час ад часу адзначаць пэўныя гадавіны. Ня ўсе яны аднак выходзяць за кола сям'і ці сяброў. Нядаўна мы адзначылі гадавіну, якая заслугоўвае ў беларускім грамадзтве на чужыне на паважнае месца. Наш юбіляр сп. Кастусь Мерляк зьяўляецца няўтомным грамадзкім працаўніком і за 85 гадоў жыцьця прысьвяціў беларускай грамадзкай працы 55 гадоў. Варта асьветліць ягоныя заслугі ў беларускай грамадзкай і царкоўнай дзейнасьці.

# Кастусь МЕРЛЯК –



## 85 год ад народзін і 55 год грамадзкай працы

Сп. Кастусь Мерляк нарадзіўся 25 сьнежня 1919 году ў вёсцы Дзетамля, былога Наваградзкага павету, ад бацькоў Ільлі й Вольгі (з дому Ціхановіч). Бацька быў настаўнікам і афіцэрам у царскай арміі. Пасьля І-й сусьветнай вайны вярнуўся ў сваю вёску і жыў на зямлі. Кастусь вучыўся ў польскай пачатковай школе. Пазьней закончыў двухгадовую Ральнічую школу ў Кушалеве ў 1935 годзе. Адразу паступіў у школу каапэрацыі, якую закончыў у 1938 годзе. Там спаткаўся із сьведамымі людзьмі, што накіравала сп. К. Мерляка зацікавіцца беларускімі нацыянальнымі праблемамі. А да гэтага, жывучы на вёсцы, пазнаў нашых людзей, прыроду, а праз гэта палюбіў свой край, што засталося ў яго аж да сёньня, юнаком ён сфармаваўся на добрага і сьведамага чалавека.



*21.03.57. Старшыня БАЗА Кастусь Мерляк, архіяпіскап БАПЦ Васіль, кангрэсмэн Францішак Е. Дон на сходах Кангрэсу.*

*Здымкі ўзятыя з кнігі "ДЗейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі".*

З 1939 году пачынае зарабляць сабе на хлеб як бухгалтар. Працягвае працаваць у гэтым напрамку і з прыходам Саветаў, мяняючы толькі ўстановы ці характар функцыяў. (У 1940 годзе скончыў курсы крэдытных інспэктараў у Беластоку, што павысіла ягонае становішча на працы). Усё-ж той пераходны пэрыяд, як 1939 год пад Польшчай, савецкае "асвабаджэньне да 22 чэрвеня 1941 году, як і пачатковая акупацыя немцамі, не спрыяў беларусам прысьвяціць больш увагі сваім нацыянальным праблемам, не спрыяў ён і сп. К. Мерляку ў гэтым напрамку.

Калі немцы дазволілі арганізацыю цывільнай адміністрацыі ў Беларусі, сп. К. Мерляк пачаў працаваць у Наваградку ў гарадзкой управе, пасьля ў Самапомачы. У 1942 годзе едзе ён на курсы афіцэраў Беларускай Самапомачы ў Менску, дзе спатыкае большае кола маладых энтузыястых, а таксама бліжэй пазнае тагачаснае беларускае кіраўніцтва і ягоных лідэраў.

Пасьля курсаў, як падафіцэр, быў накіраваны ў Ліду, дзе, як ад'ютант капітана Касацкага, меў прычыніцца да арганізацыі беларускага батальёну. Недавер немцаў да гэтай арганізацыі і нязгода даць забесьпячэньне разьвязала гэтую кампанію ў пачатку 1943 году.

Вярнуўшыся ў Наваградак працуе кіраўніком адміністрацыі на Салатычы, Воўкавічы, Гарадэчына і Шчорсы (4 месяцы).

Увосень 1943 году, калі зарганізаваўся Беларускі эскадрон пад кіраўніцтвам Барыса Рагулі, сп. К. Мерляк, як сяржант, уступае ў яго як пастаўшчык, а пасьля і як арганізатар батальёну ў сакавіку 1944 году. Гэтая адзінка была ведамай ня толькі ў абароне вёсак ад чырвонай партызанкі, але і як зарука супраць пасяганьняў немцаў на беларускую моладзь дзеля працы ў Нямеччыне, як і іншых інтрыгаў немцаў альбо даносчыкаў на правы Беларускай Наваградчыны.

З наступленьнем Саветаў у 1944 годзе сп. К. Мерляк пакінуў Наваградак 7 ліпеня 1944 году і атрымаўся ў Нямеччыне.

Час ад 1942 да 1944 году быў пэрыядам, калі сп. К. Мерляк выпрабаваў свае сілы і здольнасьці як беларус: урадовец, вайскавік, адміністратар і лідар. Сёньня мы бачым, што тое выпрабаваньне загартавала яго на стойкага беларуса-барацьбіта.

Канец 1944 – 1946 гады былі для бальшыні беларусаў у Заходняй Эўропе гадамі валакіты, лягероў, пагрозаў і т. п. Наш юбіляр таксама круціўся ў тым віры. Пасьля вайны апынуўся ў Італіі, дзе беларусы чамусьці не згуртаваліся, як напрыклад у Нямеччыне. У 1947 годзе сп. К. Мерляк выехаў у Аргэнтыну.

А часу пераезду ў Аргэнтыну сп. К. Мерляк з усёй энэргіяй упрагаецца ў беларускую грамадзкую працу. Дзякуючы яму засноўваецца Згуртаваньне Беларусаў у Аргэнтыне (1948 год), старшынём якога ён і быў. Дзякуючы ягонай энэргіі й здольнасьці імя беларуса, як і беларуская праблема, робяцца вядомымі ва ўрадовых колах, у радыё і прэсе. Ён цікавіцца таксама, каб беларуская праблема была вырашаная ў Парагваі й Уругваі, куды выяжджаў для яе палагоджаньня. У Аргентыне ўладкаваліся і асабістыя справы – у 1950 годзе ён ажаніўся з Ганнай Губэрт. Увыніку гэтага сёньня спадарства Мерляк маюць прыгожую сям'ю: трох дарослых адукаваных сыноў.

Пасьля сямі гадоў у Аргэнтыне сп. К. Мерляк ізь сям'ёю 28.07.1954 году пераехаў у ЗША. Гэты прыезд даволі пасьпяхова адбіўся як на ягоным асабістым жыцьці, так і на жыцьці тутэйшай беларускай грамады ды ўсёй беларускай эміграцыі наагул. Як ведамы арганізатар быў прыняты з адкрытымі рукамі як у царкве, так і ў БАЗА, якая хучэй была арганізацыяй на паперы, патрабавала добрага кіраўніка. Ён за яе адразу-ж і ўзяўся ды паставіў на высокі ўзровень як арганізацыйна, так і аўтарытэтна. Адразу быў старшынём акругі БАЗА ў Нью Ёрку, а пасьля Старшынём Галоўнай Управы БАЗА (1954-1963). Будучы старшынём камітэту набыцьця беларускага народнага дому і царквы (1955-1957) выдатна справіўся і з гэтым заданьнем. На палітычным полі таксама здабыў выдатныя вынікі: як старшыня сэктару і міністар нутраных справаў БНР навязаў сувязі з амэрыканскімі ўрадавымі дзейнікамі; паказаў тым, хто ня ведалі, як навязваць такія сувязі, куды ехаць, з кім спатыкацца.

Калі-ж беларускае грамадзкае жыцьцё стала актыўным, БАЗА стала на ногі, царква здабыла свой будынак, беларускія дэлегацыі пачалі езьдзіць у Вашынгтон, ды міністры БНР акрэплі матар'яльна – дык пачалі раздавацца галасы асобаў, якія казалі, быццам сп. К. Мерляк надўжывае іх прэрэгатывы.

Час 1963-1967 гадоў у БАЗА, як і ў БАПЦ, быў часам непаразуменьняў і непатрэбных сварак. У 1964 годзе Ўладыка Васіль падаў у суд на царкоўную раду, бо ў ёй быў сп. К Мерляк. Суду ніхто ня выйграў, але заставацца ў царкве надалей сп. К. Мерляку і тым, хто зь ім супрацоўнічаў, было немэтазгодным. Вялікая частка прыхаджанаў адыйшла і ў 1968 годзе стварылі свой новы прыход Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гілл, Н. Ё., пад юрысдыкцыяй Канстантынопальскага Патрыярха. Яшчэ да царкоўнага суду былыя сябры БАЗА стварылі сваю арганізацыю Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью Ёрку (06.06.1965 г.)

Стварэньне новага прыходу, атрыманьне чартару на яго, купля пляцу пад царкву, знаход сьвятара ды будова царквы – гэта была калясальная праца. У гэтым вялізным прадпрыемстве першую скрыпку іграў сп. К. Мерляк. Як арганізатар, грамадзкі аўтарытэт і кіраўнік ён аб'яднаў грамаду (сваіх і прыяцеляў) да адной мэты – выканаць пастаўлены плян. І выкананьне было даведзена да канца.

14.11.1982 году сп. К. Мерляка выбіраюць старшынём царкоўнае ўправы. Сп. Ян Казьлякоўскі застаецца пажыцьцёва ганаровым старшынём. Дагэтуль сп. К. Мерляк быў заступнікам старшыні ў царкоўным кіраўніцтве, хоць у сапраўднасьці выконваў працу старшыні. Гэта рабілася як з пашаны сяброў прыходу, гэтак і сп. Мерляка да асобы сп. Я. Казблякоўскага, якога ўвесь час выбіралі старшынём царкоўнай рады ці царкоўнай управы прыходу.

Наступным здарэньнем, дзе сп. К. Мерляк праявіў свае здольнасьці, было высьвячэньне царквы 30.10.1983 году. Уладыка Мікалай (Сміско) узначальваў высьвячэньне. Арганізацыя і прабег урачыстасьці былі выдатнымі. Аб нашым высьвячэньні даведалася ўся Амэрыка.

Апошняй вялікай падзеяй было адзначэньне 1000-годзьдзе хрысьціянства ў Беларусі 31.05.1987 году. Службу ізноў узначаліў Уладыка Мікалай. Ізноў сп. К. Мерляк паказаў, як трэба рэпрэзэнтаваць сваю царкву і беларусаў. Гэта была гучная ўрачыстасьць. За што сп. Мерляку падзяка і пахвала.

Сп. К. Мерляк таксама шмат пісаў у прэсе аб беларускіх праблемах, што тычыліся эміграцыі, як і жыцьця на Бацькаўшчыне. (Што і дзе пісаў – адсылаю ў ягоную кніжку "Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі", 1992 г.) Выступаў заўсёды ў абарону правоў беларускага народу ці ў абарону справядлівасьці ў жыцьці нашай эміграцыі.

Сп. К. Мерляк ёсьць чалавекам вельмі дакладным у рэгістрацыі часу й дзейнасьці як беларускіх арганізацыяў, гэтак і ягонага ўдзелу ў іх. Ён зьбірае дакумэнты й матар'ялы (наколькі гэта было магчыма) усяго, што адбывалася ў жыцьці беларускай эміграцыі. І ў яго сабраўся цэлы архіў асноўнага, што беларуская палітычная эміграцыя рабіла. У 1990 годзе сп. Мерляк сядае за стол і парадкуе гэты вялікі матар'ял – пачынае пісаць кніжку аб тым, што ён бачыў, што пережыў, чым кіраваў, і як беларуская эміграцыя пражыла ад 2-е сусьветнае вайны да 1990 году. У 1992 годзе кніжка "Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі" выйшла ў сьвет. Друк аплаціў аўтар.

Што да самое кніжкі – дык гэта ўнікум. Я меў дачыненьне да гэтае працы ў часе падрыхтоўкі яе да друку. І ад першага перагляду я бачыў, што гэта выдатная праца. Выдатная ў тым значэньні, што ў ёй зьмешчаны асноўны матар'ял па гісторыі нашае эміграцыі ад 2-й сусьветнай вайны. Другое, што з Аргэнтыны галоўным месцам падзеяў ёсьць ЗША, дакладней Нью Ёрк. А галоўныя дзейнікі палітыкі нашае эміграцыі былі БНР, БЦР, БАЗА і Кангрэсовы Камітэт, якія мелі свае галоўныя кватэры, пасьля Эўропы Нью Ёрк і Саўт Рывэр,



*Царква Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл.*

*Працяг на бачыне 5*



# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

✉ 166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №2 (469)


## Студзеньскі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

У грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага 9 студзеня 2005 году адбыўся сход аддзелу БАЗА і калядная імпрэза, ладжаныя аддзелам сумесна з парафіяльнай радай Сабору. Адразу пасьля літургіі прысутныя пакаштавалі смачнага абеду, падрыхтаванага сястрыцтвам у складзе Зоі Вашкевіч, Тацяны Красоўскай і Аляксандры Лістоўскай. Затым старшыня аддзелу БАЗА сп. Віталь Зайка, павіншаваўшы прысутных з Новым годам і Калядамі, акрэсліў асноўныя падзеі мінулага месяцу і мінулага году. Да асноўных падзеяў мінулага году, што маюць вялікі ўплыў на становішча ў Беларусі, у дадатным пляне трэба адзначыць перамогу дэмакратычных нацыянальных сілаў ва Украіне, а у адмоўным –правядзеньне рэжымам Лукашэнкі сфальсыфікаванага рэфэрэндуму і недэмакратычных парляманцкіх выбараў. Перамога наших украінскіх братоў дае нам сілы й надзею на лепшую будучыню Беларусі.

З сваімі ўражаньнямі ад наведваньня Беларусі й Менску выступіла сябра аддзелу спн. Ала Кузьміцкая. Яна распавяла пра паездку ў Беларусь, зь якой вярнулася некалькі дзён назад, падзялілася агульнымі ўражаньнямі і адзначыла цяжкія ўмовы, у якіх апынуліся пэнсіянеры й моладзь у выніку эканамічнай палітыкі рэжыму Лукашэнкі.

Затым з прамоваю, прымеркаванай да Калядаў, аб патрэбе міру сярод беларусаў і аб салідарнасьці паміж іх выступіў Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць.

Пасьля гэтага прайшла асноўная частка: канцэрт славутага сьпевака і паэта Сержука Сокалава-Воюша. Прысутныя з задавальненьнем праслухалі патрыятычныя і лірычныя песьні барда, і з энтузыязмам віталі як старыя, так і навыя творы.

***Віталь ЗАЙКА***



*Выступае Сяржук Сокалаў-Воюш.*

Сакавіцкі сход нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца ў нядзелю, **6 сакавіка 2005 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага па адрасу:
***401 Atlantic Avenue (Bond Street), Brooklyn, NY 11217***
сумесна з парафіяльнай радай Сабору і будзе спалучаны з імпрэзай, прысьвечанай Запускам.

Пачатак апоўдні, 12:00, пасьля літургіі ў Саборы. Запрашаюцца ўсе, каму неабыякавыя свабода і дэмакратыя ў Беларусі. Даезд падземкай A, C да станцыі ***Hoyt-Shermerhorn St.***, або падземкай F да станцыі ***Bergen St.***

Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association.*

## Вяртаньне мецэнатаў

*Заканчэньне з бачыны 1*

з Ірэнай Каляда-Сьмірноў, якой, як і кожнаму мецэнату, сталі даспадобы некаторыя музычна-дасьледчыя ідэі ўдзельнікаў гурта. Вынікам стаў дыск "Verbum" (з латыні "Слова"), у якім, акрамя музычных здабыткаў (Полацкі сшытак), упершыню было агучана зь беларускай фанэтыкай "Слова пра паход Ігаравы", загучалі пад лютню арыгінальныя тэксты Міколы Гусоўскага, запісаныя вялікія ўрыўкі Статута ВКЛ пад беларускія дуды і начытаныя ўрыўкі з "Пана Тадэвуша" пад беларускую ліру.

Гэта быў першы вопыт, і калі спн. Ірэна атрымала вынікі працы – ліцэнзійныя дыскі – яна зрабіла наступны прафэсыйны крок мецэната. Яна проста запытала, ці маюць удзельнікі гурта іншыя арыгінальныя ідэі. А ідэй ворах – нашыя продкі пакінулі так шмат перлінаў музычнага мастацтва, што працы хопіць вялікаму інстытуту гісторыі.

Без залішніх перамоваў спн. Ірэна прапанавала брацца за далейшую працу. І тут, абапіраючыся на вопыт, набыты за ранейшыя гады, ольсаўцы год працавалі над старымі мэлёдыямі й паўгады ў студыі. Праз паўтары гады пабачыў сьвет двайны альбом "Скарбы літвінаў", які вяртае мноства згубленых шэдэўраў.

Ад Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай да Ірэны Каляды-Сьмірноў і далей нашая культура і нашыя нашчадкі будуць абавязаны вам, беларускія мецэнаты. Шчыры дзякуй!

***Зьміцер САСНОЎСКІ,***
***Кіраўнік гурта "Стары Ольса"***

## Кастусь МЯРЛЯК

*Заканчэньне з бачыны 4*

Нью Джэрзі. (Трэцяя сіла ў Канадзе із сп. Хмарай (Зіняк) іграла меншую ролю). І вось гэты асноўны матар'ял перадаў на разгляд беларускай грамадзкасьці ў сваёй кнізе сп. Мерляк.

Я называю кніжку ўнікум, бо падобнага матар'ялу ніхто іншы ня зможа падаць, бо ніхто яго з дакладнасьцю сп. Мерляка не зьбіраў. А сабраць яго сёньня немагчыма: матар'ял раскіданы, многія людзі памерлі, дый самыя дакумэнты пратаколаў ці пастановаў мала што гавораць, бо там не гаворыцца, як усё выконвалася, няма пры іх і фатаграфіяў і іншых выканаўчых пасьведчаньняў. У сп. К. Мерляка сабрана ўсё, што паказвае пастановы, і як яны выконваліся, як нашыя кіруючыя асобы і людзі дзеялі.

Калі я пазнаёміўся з рыхтаванай кніжкай сп. К. Мерляка, дык быў зьдзіўлены, што сп. Мерляк знайшоў час і сілу волі гэтую кніжку падрыхтаваць. Бо трэба было ўпарадкаваць матар'ял і змусіць сябе пісаць вялікую працу акрамя іншых штодзённых абавязкаў. Сп. Мерляк грамадзкі чалавек і мае прыроджаную грамадзкую адказнасьць. Гэта і дазволіла напісаць выдатную кніжку і ахвяраваць яе як падарунак нам, эмігрантам і беларусам на Бацькаўшчыне.

Хацелася-б, каб сп. Мерляк напісаў яшчэ адную кніжку, прадаўжэньне першае. Зьяўляюцца галасы, што добра было-б, каб ён удакладніў ужо апісанае, і асабліва, каб больш выказаўся аб добрым баку беларускіх эміграцыйных кіраўнікоў.

Тут я пералічыў толькі некаторыя заслугі сп. К. Мерляка. Не гаворыцца тут аб штодзённым, штогадовым укладзе ў будову беларускага жыцьця (грамадзкага і царкоўнага) на эміграцыі. І гэта з 1944 году аж да сёньня сп. Кастусь Мерляк крок за крокам, з дня на дзень стараўся ўнесьці нешта пазытыўнае, каб пашырыць як найбольш у вольным сьвеце імя беларусаў і Беларусі, а праз гэта хоць крыху прыблізіць дзень незалежнасьці Беларусі. А сёньня, калі Беларусь аб'яўлена незалежнай, дык каб яна была ня толькі "аб'яўленая", але сапраўды незалежная.

Ужо недзе ад сямі гадоў сп. Кастусь Мерляк страціў здароўе і ня ў сілах фізычна ці грамадзка працаваць. Аднак сама яго прысутнасьць між намі, ягонае спатканьне з намі амаль кожнае нядзелі ў царкве – гэтым адчуваецца ягоны аўтарытэт, ягоны ўплыў і ўклад у жыцьцё нашай беларускай эміграцыйнай грамады.

Дык падзякуем нашаму юбіляру Кастусю Мерляку за той вялікі ўклад працы ў нашае грамадзкае і царкоўнае жыцьцё, і хай яго Бог узнагародзіць за гэта. Да гэтага пажадаем яму здароў'я і добрага жыцьця.

*Маналапан, Н. Дж. 04.01.05 г.*

***Васіль ШЧЭЦЬКА***

## Ліст у рэдакцыю

У сьнежаньскім нумары газэты "Беларус" я прачытаў артыкул Аляксея Арэшкі "Беларускія студэнты ў Мюнхэне (1945-1953)", дзе нагадана пра арганізацыю ЎНРРАўскага ўнівэрсытэту і студэнцкіх беларускіх студэнтаў. Не нагадана шмат прозьвішчаў, між іншых і маё. Я, Вітаўт Рамук, таксама студыяваў мэдыцыну на ЎНРРАўскім унівэрсытэце. Паколькі не было гарантыі, што факультэт мэдыцына ў гэтым унівэрсытэце будзе існаваць і надалей, я перайшоў у нямецкі ўнівэрсытэт у Мюнхэне, а ў 1949 годзе пераехаў на Каталіцкі ўнівэрсытэт у Лювэне (Бэльгія), дзе і закончыў мэдыцыну ў 1953 годзе.

Падчас студэнцтва я таксама належаў да Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня.

Прашу зьмясьціць гэтую заценку як дадатак да артыкула Аляксея Арэшкі.

***Др. Вітаўт РАМУК***

# Новыя кнігі. Рэцэнзіі

## Кніга перакладаў “Вершаў на Свабоду”

PкEMS кN LIBERTY: Reflections for Belarus. Translated by Vera Rich. (Liberty Library. 21st Century). Radio Free Europe/Liberty, 2004. 312 pp.




Гэта густоўна аформленая кніга, падрыхтаваная і апублікаваная Беларускай службай Радыё Свабода — ужо другое выданне вершаў, дасланых на Радыё Свабода ў рамках праграмы “Верш на Свабоду”, што гучала на радыёхвалях у 2001 годзе. У кнізе сабраныя 122 вершы з праграмы, у арыгінале па-беларуску і ў ангельскім перакладзе слыннай мастачкі перакладу з беларускай на ангельскую мову, паэткі й вялікага прыяцеля беларусаў спн. Веры Рыч. У прадмове да выдання прэзыдэнт Радыё Свабода / Радыё Вольная Эўропа сп. Томас Дайн адзначыў, што Беларусь – гэта адзіная краіна Эўропы, дзе перадачы Радыё Свабода слухаюць, як у часы халоднай вайны, як адзіную крыніцу альтэрнатыўнай інфармацыі, і дзе паэт можа трапіць за краты з-за сваіх вершаў. “Але я ўпэўнены, што аднаго дня Беларусь зробіцца “салодкай зямлёю свабоды”, як бачыць складальнікі слоў, чые вершы сабраныя ў гэтым выданні”.

У зьместоўным нарысе-прадмове для англамоўнага чытача, «Песьні— —Уздыханьні—Свабоды», Вера Рыч спыняецца на пытаньнях паэтычнага перакладу і адзначае, што Беларусь падзяляе зь іншымі народамі Эўропы спадчыну агульнаэўрапейскай культуры, зь еймымі сымболямі й алюзіямі. Узгадваюцца некаторыя асноўныя паняцьці нацыянальнага сьветагляду – беларускія нацыянальныя сымболі, значаньне Вільні, Скарыны. Разглядаюцца пытаньні сэмантыкі й этымалёгіі словаў «свабода». «Бацькаўшчына», дуалізм «царква-касьцёл». Вера Рыч адзначае, што лічыць пераклад мастацтвам, і што імкнулася перадаць па-ангельску вершаформу арыгіналу, што ёй, як і ва ўсіх, дарэчы, ейных перакладах, удалося з посьпехам выканаць.

На заклік Беларускай службы Радыя Свабода адгукнуліся сотні людзей зь некалькіх дзесяткаў краінаў. Вершы гучалі ў жывым этэры, і неўзабаве была выдадзеная першая кніга вершаў, зь іх лікам па колькасьці дзён у годзе. Сярод людзей, што дасылалі вершы, былі беларусы й прадстаўнікі іншых нацыяў. Былі між іх і школьнікі, і Нобелеўскія ляўрэаты (Шымборска, Мілаш). І прафэсыйныя літаратары, прызнаныя паэты і пачаткоўцы. Вершаў у ангельскім перакладзе апублікавана ў тры разы меней; не ўзгаданы прынцып, па якім яны адбіраліся. Між аўтараў бачым клясыкаў беларускай літаратуры Максіма Лужаніна, Рыгора Барадуліна, Алеся Разанава, Генадзя Бураўкіна, Ніла Гілевіча, Дануту Бічэль, Уладзімера Някляева ды іншых, а таксама маладзейшых паэтаў, паказаўшых сябе, і бардаў Зьміра Бартосіка, Віктара Шалькевіча, Андрэя Мельнікава і — шмат новых, невядомых імёнаў. Ёсьць у зборніку і верш прадстаўніка беларускай дыяспары ў Злучаных Штатах, навукоўца, грамадзкага дзеяча і паэта Янкі Запрудніка.

Адкрывае зборнік верш Сьвятаяны, дзе гаворыца пра ўзрастаньне зерня, завяршаецца — вершам-зваротам Ніла Гілевіча да нашай моладзі:

Помні:
Волю ў змаганьні бяруць,
А ня просяць,
Ня кленчаць,
Ня моляць.
Толькі ты
Зьберажэш Беларусь,
Толькі ты,
Беларуская моладзь!

Пасьля новага вершу Славаміра Адамовіча ідзе верш “Не забівай прэзыдэнта!”, як-бы палемізуючы зь вершам “Убей прэзідэнта”, за які Адамовіч правёў 10 месяцаў за кратамі.

У зборніку прадстаўлены шырокі спэктар формаў, вобразаў і танальнасьці вершаў, ад патаснай патрыятычнай лірыкі (напрыклад, Хрысьціна Чарняўская) да хайкупадобных эпікурэйскіх радкоў (Адам Глёбус).

Пераклады зробленыя па-майстэрску, нягледзячы на некаторыя недакладнасьці, як, прыкладам, “Чырвоны Штраль” у вершы Бартосіка ня можа быць ‘Red Arrow’ (Sztrall—імя ўласьніка віленскай кавярні), а “тытанік” у вершы Хадановіча — па кантэксьце хутчэй алюзія да тонучага карабля, чым да маленькага тытана (хоць тут аўтар гэтай рэцэнзіі можа памыляцца).

Майстры вершаванага радка пацьвердзілі сваё мастацтва, годна апелі Беларусь і свабоду, што непазьбежна прыйдзе на беларускую зямлю. Выдатна зарэкамэндавалі сябе і новыя паэты. Дужа-ж файна прачытаць радкі, сугучныя тваім думкам і настроям, ды яшчэ ў вершаванай, канцэнтраванай форме. Безумоўна, гэтая кніга перакладаў вельмі патрэбная як для распаўсюджаньня ведаў і вестак пра беларускае змаганьне за свабоду, так і для простай асалоды чытаньня новых, сьвежых і поўных надзеі радкоў па-беларуску, побач зь ім менш цудоўнымі радкамі па-ангельску, што стварыла Вера Рыч, якой і належыцца асблівая падзяка за выдатны, як і заўсёды, пераклад.

**Віталь ЗАЙКА**

# “Пад ціхі шум твайго верацяна”




Кнігу “Выбранае” Анатоля Бярозкі прыслаў мне зь Менску Анатоль Белы. Менавіта ён зьяўляецца ўкладальнікам гэтай цікавай і арыгінальнай кніжкі беларускага паэта, перакладчыка, публіцыста, доктара мэдыцыны, які жыве ў ЗША.

Імя Анатоля Бярозкі (Мацьвея Рэпкава-Смаршчка) стала вядома беларускаму чытачу яшчэ ў 30-х гадох мінулага стагодзьдзя, калі ён свае першыя вершы пачаў друкаваць на старонках заходнебеларускіх часапісаў “Шлях моладзі” і “Калосьсе”. Таму перш чым прачытаць гэтае выданьне, дастаў з кніжнае паліцы сваёй прыватнай бібліятэкі некалькі нумароў “Калосься” за 1935-39 гады. І, сапраўды, амаль у кожным нумары часапіса змешчаныя вершы Анатоля Бярозкі. У часопісе “Калосьсе” за 1935 год (кніжка 2, старонка 88) чытаю:

Пад ціхі шум твайго верацяна
Снуючца думкі плоймалі густымі –
Узоры ткуць у лучыне сінім дыме,
І ўецца ніць, як тонкая струна.

Якія выдатныя радкі! Які вобраз! Толькі паэт ад Бога можа намаляваць такі простыя, але паэтычна-яркі малюнак. А ў “Калосьсі” за 1936 год (кніжка 2, старонка 88) аўтар тужліва-далікатна распавядае, як

Тысячай зор палымяных неба ўпілося ў барозны,
У ціхія хаты... у жорсткія рукі... у чорны
іх хлеб і соль...
Шэрыя хаты, цяжкія рукі – маўклівы і грозны:
Гэтак ціха маўчаць умее толькі магутны боль.

Чытаючы творы паэта зьвярнуў увагу на адную акалічнасьць. Амаль кожны верш пачынаецца зь вельмі моцнага, адметна-вобразнага і філязофскага радка. Кожны такі радок прымушае дачытаць верш да канца. Вось некалькі радкоў з розных вершаў паэта: “Ноч павісла над соннай зямлёй...”, “Ціхутка траўневая ноч падышла...”, “Умурзаны месяц выпаў на мутнае неба...”, “Я люблю цябе, вечар, за цень перажытага дня...”, “Сягодня патухла тваё акно...” і г. д.

Усе калосьсеўскія і шляхамоладзеўскія вершы Анатоля Бярозкі ўвайшлі ў кнігу “Выбранае”, а таксама вершы зь ягонага першага паэтычнага зборніка “Адзінаццаць вершаў” (Мантыселя, ЗША, 1989 г.).

Кніга Анатоля Бярозкі прыцягвае яшчэ ўвагу тым, што акрамя вершаў у ёй зьмешчаныя цікавыя ўспаміны аўтара пра Язэпа Пушчу і Лявона Луцкевіча, а таксама пераклады вершаў зь летувіскай і ангельскай моваў на беларускую. Наагул, складальнік кнігі Анатоль Белы падышоў да гэтай працы вельмі сур'ёзна і прафэсыйна. Сюды ён уключыў ня толькі літаратурныя творы паэта, але і артыкулы пра ягонае жыцьцё і творчасьць, фотаздымкі розных гадоў і бібліяграфічны паказальнік. Атрымалася своеасаблівая маленькая энцыкляпэдыя жыцьця і творчасьці беларуса на эміграцыі. Нічога сюды ня трапіла лішняга і нічога не ўпушчана.

У мінулым годзе Беларускае Гістарычнае Таварыства ў Беластоку выпусьціла асобную кнігаю гістарычныя нарысы Міколы Шкялёнка “Беларусь і суседзі”. На працягу шмат гадоў зьбіраць весткі пра гэтага выдатнага і забытага беларускага гісторыка і ягоныя працы давялося мне. І калі кніга была напісаная і складзеная – знайшоўся яе фундатар. Гэта ніхто іншы, як Мацьвей Рэпкаў-Смаршчок. Так склаўся лёс, што вайна і сталінскія рэпрэсіі разлучылі двух віленскіх сяброў. А ў тыя далёкія 30-я гады яны былі супрацоўнікамі часапіса “Калосьсе”, нават уваходзілі ў рэдакцыйную калегію. І хто мог падумаць, што Міколу Шкялёнка бальшавікі расстраляюць у 1946 годзе ў Курапатах пад Менскам, Мацьвей Рэпкаў-Смаршчок усё жыцьцё пражыве далёка ад Бацькаўшчыны. А праз 70 гадоў адзін зь іх выдаткуе грошы, каб патрымаць у руках і прачытаць выдатную гістарычную кнігу свайго сябра. “Кніга гэтая высокакасная і важная ды, безумоўна, заслугоўвае публікацыі, як ацэніць яе кожны, хто прачытае” – пісаў мне ў адным зь лістоў др. Рэпкаў-Смаршчок.

Хутка Анатолю Бярозку споўніцца 90 гадоў. Верыцца, што разам зь ім літаратурная Беларусь адзначыць гэтую шаноўную дату і, кажучы словамі паэта, няхай ня хутка “парвуцца струны” і не “замоўкне яго звонкая ліра”.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Надлом беларусаў

Васіль Якавенка. Надлом. Раман. Менск. Беллітфонд, 2003 год. Бачын 527.

Моталь - мястэчка, маляўніча распаложанае каля ракі Ясельды ў 40 км на паўночны захад ад Пінску. Мястэчка старое. Некалі па пратэкцыі каралевы Боны атрымала Магдэбурскае права.

Ад вякоў жылі там у згодзе беларусы й гэбраі. У даваенным Моталі быў вялікі адсотак гэбраяў. Займаліся яны гандлем і рамёствамі. Маючы “манаполію гандлю ў сваіх руках, трымалі яны й цэны ў сваіх руках”, што часта прыводзіла да нараканьняў з боку мясцовых беларусаў, якія ў Моталі займаліся хлебаробствам.

Моталь у міжваенны час (1921-1939 г. г.) быў толькі намінальна беларускім: улада, школы нават шыльды былі на чужых мовах.

Успомнім, што ў Моталі нарадзіліся сьв. пам. Мітрапаліт БАПЦ Мікалай (Мацукевіч) і Хаім Вэйцман, першы прэзыдэнт Ізраілю. Жыцьцё маталянаў і апісвае Васіль Якавенка ў сваім манумэнтальным рамане “Надлом”. Зацытуем рэзюмэ гэтай кнігі, зробленае выдавецтвам.

“Раман “Надлом” – твор псыхалягічны, жывы, увабраў у сябе шмат падзей і багата чаго закранае. Ён прысьвечаны драме і трагедыі беларускага нацыянальнага адраджэньня, неаднаразовыя спробы якога былі ў ХХ стагодзьдзі. Сярод пэрсанажаў - рэальныя гістарычныя асобы, якім собіла аказацца ў віры падзей.

У цэнтры ўвагі аўтара радзіна Пятра Пісарчука, жыхара заходнебеларускага мястэчка Моталь. Менавіта праз яго сыноў і ўнучку Марыю раскрываецца пакручыстьі лёс пакаленьняў.

Праўдзівасьць і выразнасьць мастацкага палатна прымушаюць думаць, што аўтар самахоць ідзе па цаліку і ўздымае скібы, якіх ніхто зь яго папярэднікаў, бадай, яшчэ не кранаў.”

Аўтар кнігі апісвае прыгнятаючае жыцьцё беларусаў пад польскім панаваньнем да 1939 году. Падаткі, польскія школы, паліцыянты, урадоўцы, палянізацыя, націск на праваслаўную веру і т. п. непакоілі мясцовы працавітых і богабаязны народ і рабілі яго варожым да палякаў. Сярод іх знаходзілі сабе прыхільнікаў камуністы. Барыс Пісарчук, сын Пятра, таксама стаў камуністам з пераканаНьня.

У 1939 годзе Польшча перастала існаваць і Заходняя Беларусь ўзьядналася з БССР. У часе пасьля пачатку ІІ Сусьветнай вайны (01.09.1939г.) і прыходам Чырвонай Арміі 17.09.1939 г. у Моталі й ваколіцах распачаўся несамавіты ў сваёй жорсткасьці тэрор. Мясцовыя камуністы-аматары ўтварылі розныя камітэты, пачаліся крадзежы, напады на людзей, забойствы. Яны замардавалі памешчыка Рамана Скірмунта, які быў беларускім патрыётам і браў удзел у працы І Усебеларускага Кангрэсу ў 1917 годзе, разагнанага бальшавікамі. З прыходам “освободителей” разбой часткова суціх, але не спыніўся.

Але жыцьцё маталянаў не палепшала: прышэльцы з Усходу пачалі арыштоўваць цэлыя сем'і і вывозіць іх на поўнач, да Сібіры, да Казахстану. Рабілі ўсё гэта без ніякіх абвінавачаньняў і судоў. Некаторых крэўных Пісарчукоў таксама выселілі, і яны самыя чакалі свае чаргі, але прыход немцаў перапыніў гэтыя пляны.

Працяг на бачыне 7

## Надлом беларусаў

*Працяг з бач. 6*

Пры Саветах польскую школу ў Моталі, на якую так наракалі камуністы, закрылі, а на яе месцы адкрылі... расейскую. Цяпер пратэставаць не адважваліся, бо баяліся наступстваў.

З прыходам немцаў у маталянаў настаlі яшчэ цяжэйшыя часы. Фашысты па-зьверску ліквідавалі гэбрайскае насельніцтва, пачалі вывозіць моладзь на працу ў Нямеччыну. Такая палітыка немцаў спрыяла павелічэньню шэрагаў партызанаў, ад якіх цярпелі й маталяне, бо ў іх забіралі каней, кароваў, вазы, харчы, вопратку і г. д. Апрача зьдзекаў ад немцаў і партызанаў маталяне моцна цяпрелі ад палякаў.

Вельмі цяжка жылося Пісарчукам за нямецкім часам. Пятра Пісарчука разам з сынам Паўлюком забілі партызаны. Так беларусы мардавалі беларусаў. Са сьмерцю Пятра і Паўлюка, аўдавелі Аксіньня, жонка Пятра, і Зося, жонка Паўлюка, страціла любімага дзеда ўнучка Марыя. Застаўся жывым бацька Марыі Барыс, які быў ваеннапалонным у Кёнігсбэрзе на Прусіі. Між іншым, можа праз самога Барыса партызаны замардавалі яго бацьку і брата.

Надышоў 1944 год. Дык што мелі рабіць Пісарчукі са сваімі малымі дзецьмі? Трэба памятаць, што ўсе яны былі ў сьпісе на вываз у Сібір. І яны пастанавілі ўцякаць на Захад. У красавіку і траўні аж 200 маталянаў падаліся ў Нямеччыну. Уцякалі, бо спадзяваліся, што чужына прыйме і абагрэе лепш за Бацькаўшчыну.

Пісарчукі даехалі да ваколіцаў Познані і там спыніліся сярод чужых людзей. Пасьля заканчэньня вайны не было спакою беларусам у Польшчы, бо розныя СМЕРШы й НКВДзісты вышуквалі й лавілі людзей, каб вярнуць іх туды, адкуль тыя паўцякалі. Дзякуючы землякам-беларусам Пісарчукам удалося застацца ў Польшчы. Марыя закончыла школу, потым на выдатна мэдычны факультэт Пазнаньскага ўнівэрсытэту. Цэлы час Пісарчукі былі ў кантакце з Барысам, які па вайне апынуўся ў ЗША. Ён слаў ім пачкі, грошы, нічога не шкадаваў. Быў добрым чалавекам.

Марыя ў міжчасьсе ўступіла ў шлюб, які закончыўся разводам.

З ЗША прыйшла сумная вестка, што Барыс Пісарчук, бацька Марыі, захварэў. Яна паехала яго адведаць і засталася там жыць спачатку ў Чыкага, а потым у Піцбургу, спазналася з беларусамі Сяргеем Карніловічам, Васілём Мельяновічам і іншымі руплівцамі беларушчыны. Пасьля Чарнобылю доктар Марыя ўлучылася ў дабрачынную працу, зьбірала мэдыкамэнты й пасылала ў Беларусь.

Урэшце Марыя адведала родны Моталь. Розныя пачуцьці перажывала яна пасьля сустрэчаў з роднымі і з тымі, хто прынёс яе сям'і гора.

Раман "Надлом", на маю думку, унікальны, бо гэта магчыма першая кніга, дзе так дэталёва і аб'ектыўна апісваюцца падзеі міжваеннага, ваеннага і пазьнейшага часу.

У кнізе ад пачатку да канца цягнецца нітка любові да роднае мовы, да Беларусі. Кніга цікавая і павучальная і чытаецца зь вялікім задавальненьнем. Без перабольшваньня можна сказаць, што на яе падставе трэба зьняць фільм, які мог-бы мець фэнамэнальны посьпех. Чакаем.

***Міхась ШВЭДЗЮК, Англія***

**УДАКЛАДНЕНЬНЕ**: у "Беларусе" №503 за сьнежань 2004 году (бач. 7) ў артыкуле аб кнізе ўспамінаў Каткевічанак была дапушчаная памылка: унівэрсытэт яна скончыла не ў 1934, а ў 1939 годзе.

## "Маё жаданьне – вярнуцца ў Беларусь..."

6 кастрычніка 2004 г. ня стала Васіля (Волтэра) Мельяновіча. Ён памёр у Брансьвіку, штат Агаё (ЗША). Апошнім яго жаданьнем было быць пахаваным у Беларусі, на могілках ля палескай вёсачкі Азярніца, дзе ляжыць і ягоны дзед. Завяшчаньне нашага земляка было выканана.

Мы пазнаёміліся з Васілём Мельяновічам у канцы 80-х гадоў, калі ён прывёз у Менск амэрыканскую выстаўку.

– Я, Васіль Мельяновіч, – самы сапраўдны беларус, сын "кулака" зь вёскі Азярніца, што непадалёк ад Лунінца, – зь нейкім выклікам прадставіўся ён тады.

Размаўляў "амэрыканец" на добрай беларускай мове, і нярэдка вакол яго зьбіраўся натоўп людзей, якім было цікава даведацца ня толькі пра далёкую Амэрыку, але і пра яго самога.

Пазьней "кулацкі" сын паведаў мне сваю гісторыю.

... Сям'я ў іх была вялікая і працавітая. Дзед, ягоныя браты й іхнія дзеці апрацоўвалі зямлю разам, а не паасобку свой кавалак. Працавалі сумленна, грошы складвалі – не прапівалі. Калі троху падсабралі, набылі малацілку з маторам, прыдбалі яшчэ ладны кавалак зямлі. Спадзяваліся, што будуць гаспадарыць на ёй. Але восеньню 1939 году ў Заходняй Беларусі ўсталёўвалася савецкая ўлада. Васіля, а ён якраз пайшоў у першы кляс, настаўнікі не пусьцілі на заняткі, маўляў, у савецкай школе ня месца дзецям "кулакоў".

Далей – болей. Усіх, хто жыў больш-менш заможна, сталі раскулачваць. Брата дзеда Васіля выслалі ў Сібір. Дзеда і ўсіх астатніх родзічаў сталі цягаць на допыты. Бацька хаваўся. Дык энкэвэдысты рабілі засады ў хаце, каб злавіць яго.

Уся сям'я Мельяновічаў была гатовая, што іх вось-вось вышлюць у Сібір. Напагатове стаялі падрыхтаваныя торбачкі з рэчамі. Але тут абрынулася вайна...

Пазьней яны апынуліся ў Нямеччыне: спачатку ў польскім лягеры, потым – у беларускім. Пачатковую адукацыю Васіль Мельяновіч і ягоныя сёстры атрымалі ў школцы, якая была ў лягеры, а потым у беларускай гімназіі ў Міхельсдорфе. (Менавіта гэта гімназія "паставіла тады на ногі" беларускую эміграцыю.) Тыя людзі, што выкладалі там, былі самаахвярнымі беларусамі. Яны перадалі вучням усю сваю любоў да Беларусі, далі веды па гісторыі, літаратуры, геаграфіі, выхавалі пачуцьцё годнасьці й нацыянальнай самасьвядомасьці.

Магу ўявіць, якія пачуцьці перапаўнялі душу палескага хлопчыка, калі пасьля ўсіх выпрабаваньняў і нягодаў, доўгага падарожжа на цеплаходзе па акіяне ён убачыў доўгачаканы бераг і велічны сылуэт жанчыны з факелам – Статую Свабоды.

У Нью Ёрку Мельяновічы й сем'і іншых беларускіх эмігрантаў пачалі новае жыцьцё. Сярод асьляпляльных агнёў "сусьветнай сталіцы", гукаў чужой мовы і рытмаў хіба толькі маленькія дзеці адчувалі сябе больш-меньш камфортна. Перад дарослымі-ж стаялі сур'ёзныя праблемы псыхалягічнага і эканамічнага пляну. (Бацькі Васіля, дарэчы, так і не адаптаваліся да Амерыкі, хаця пражылі там да самай сьмерці. Маці, ня ведаючы мовы, прыбірала людзям хаты. Бацька рабіў на фабрыцы. А ў вольны час майстраваў абсталяваньне для царквы, якую іх грамада тут пабудавала, адмысловыя аклады для абразоў.)

Васіль хацеў вучыцца. Але грошай на адукацыю дзяцей бацькі ня мелі. Тады хлопец вырашыў пайсьці на пару гадоў у амэрыканскае войска, што давала пасьля магчымасьць бясплатна вучыцца ў унівэрсытэце. Так Васіль Мельяновіч, прайшоўшы спэцыяльную падрыхтоўку, быў у зоне Панамскага каналу, у іншых гарачых кропках плянеты, са зброяй у руках абараняючы там амэрыканскія інтарэсы...

Вайсковая служба загартавала маладога чалавека. Ён паставіў сабе на мэце стаць высокакваліфікаваным спэцыялістам. І стаў. У 1963-м годзе атрымаў ступень бакаляўра інжынэрыі ў Нью-Ёркскім унівэрсытэце, а ў 1972-м – кандыдата навук. Пачаў працаваць у тэлефоннай кампаніі AT&T мэнэджэрам. Але грамадзкі тэмпэрамэнт не даваў Мельяновічу магчымасьці весьці ціхае і разьмеранае жыцьцё. Ён актыўна далучаецца да дзейнасьці Рэспубліканскай партыі ЗША, лабіруе інтарэсы беларускай дыяспары ў Дзяржэпартаманце, супрацоўнічае з рознымі інфармацыйнымі агенцтвамі. Вельмі ганарыўся Васіль Мельяновіч і сваім асабістым знаёмствам з Рональдам Рэйганам і Джорджам Бушам-старэйшым.

Але той, хто добра ведаў гэтага чалавека, мог-бы сказаць, што жыў ён увесь час з раздвоенай душою. І раздваеньне адбывалася з-за яго любові да Беларусі, якая не адказвала ўзаемнасьцю. Трапіць у Беларусь ён марыў заўсёды, і, напэўна, нярэдка ўяўляў, як зьявіцца там, дзе зьнявежылі іх сям'ю, зламаўшы ім усім лёс, на "белым кані". Калі такая магчымасьць зьявілася ў 1988 годзе, ён яе выкарыстаў, паехаў у Менск з амэрыканскай выстаўкай. Але дазволу наведаць Азярніцу яму не далі. Сэрца ягонае бунтавалася ад такой несправядлівасьці...

Калі-ж у пачатку 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя абвесьцілі незалежнасьць Беларусі, ён прыляцеў сюды з-за акіяну ледзь ці ня першым. І, фактычна, стаў жыць на два дамы: адзін у ЗША, а другі – у Менску. Хаця і дому ў традыцыйным разуменьні ў яго ніякага не было – здымаў сьціплую кватэру і марыў, што некалі прыдбае ў ваколіцах Менску катэдж. А ў Азярніцы бываў часта. Яго радавала, што захаваўся вялікі бацькоўскі дом, у якім цяпер разьмяшчаецца мясцовая школа. Здавалася, што блуканьне па сьцяжынках дзяцінства надае яму сілы й натаўляе энергіяй стомленую душу.

Знаходзячыся ў Беларусі, ён шмат кантактаваў зь людзьмі. Хацеў адкрыць уласную фірму, якая дапамагала-б беларусам асвойваць азы бізнэсу, мэнэджмэнту, зьбіраўся чытаць лекцыі... Але нічога не атрымалася. Адзінае, што зрабіў – правёў за свой кошт лінію электраперадач на аддалены хутар ля Лунінца, дзе дасюль пры керасінавай лямпе жыла ягоная сваячка. Беларусь зноў выштурхнула Мельяновіча, якому забараніла сюды ўезд.

У канцы 90-х гадоў Васіль паспрабаваў перамяніць сваё жыцьцё. Прадаў вялікі дом з тыпаграфіяй у штаце Мэрыленд і перабраўся ў штат Агаё, бліжэй да славутага культурнага цэнтру "Полацак".

– Хачу перадаць шматлікія падшыўкі беларускіх газэтаў, што выходзілі тут, кніжкі, іншыя матар'ялы, што я беражліва захоўваў усе гэтыя гады, для грамадзкага карыстаньня, каб гэта прыдалося на радзіме, бо тут-жа яно нікому не патрэбнае, – неаднойчы казаў ён.

Але ніякай цікавасьці да ягоных архіваў не праявілі ў "Полацку", хаця даўно зьбіраліся зрабіць там і бібліятэку, і музэй, і карцінную галярэю... Усе ўнікальныя беларускія строі, творы мастацтва, прадметы побыту, якія захоўваюцца цяпер у сем'ях, пэўна-ж, прападуць, калі адыйдзе старэйшае пакаленьне...

Каштоўныя дакумэнты, архівы, запісы В. Мельяновіча так і засталіся незапатрабаванымі. Паміраючы, ён завяшчаў пахаваць свой прах побач зь дзедам на вясковых могілках. Кажуць, што яго нават не адпелі ў той прыгожай і велічнай царкве, дзе неаднойчы стаяў на каленях перад Богам, узносячы яму хвалу.

Складаны быў чалавек, бурна жыў, цяжка паміраў, але ні ў кога не прасіў літасьці й спагады. Непрыкаяная ягоная душа, магчыма, знойдзе цяпер пакой на радзіме, куды ён так імкнуўся. Няхай за яго памоляцца ўсе тыя, каму ён у свой час працягнуў руку дапамогі, каго любіў і шанаваў. А такіх і ў Амерыцы, і ў Беларусі нямала.

Сяргей Раманюк, нядаўні імігрант зь Беларусі, якога ў цяжкі для яго пэрыяд жыцьця прытуліў у сваім доме ў Брансьвіку разам з сям'ёй Васіль Мельяновіч, даставіў прах свайго сябра (а яны сапраўды былі найлепшымі сябрамі) на радзіму. Але на пахаваньне не прыйшлі ні аднавяскоўцы, ні сваякі "амэрыканца". Чаму? Мы ня ведаем. Але і нас мясцовае начальства папярэдзіла, каб рабілі ўсё ціха, ня ладзілі на могілках ніякіх палітычных мітынгаў. А мы і не зьбіраліся. Проста зрабілі ўсё па-людзку, калі аддавалі яго зямлі. Налілі тройчы ў кілішкі й памянулі добрым словам.

***Тацьцяна АНТОНАВА-МЕЛЬЯНОВІЧ***



*Вольга ІПАТАВА*

### Васілю Мельяновічу

Дождж грыбны абмыў збаны на плоце,
І цяпер па ганку шалясьціць...
Яблыкі бялеюць у лістоце,
Белы бусел з вышыні глядзіць...

Рэчцы дадзены ўваскрэснуць шанец.
І па ёй, зьмялелай, ідучы,
Паляшук былы, амэрыканец,
Джынсы аж па лыткі замачыў.

Ён ідзе з расхрыстанай кашуляй,
А душой нібы ў дзяцінстве зьнік...
"Тут казала некалі матуля
Што ў віры зацягне Вадзянік.

А пасьля я рос. Прыйшла навала,
І маланцы адгукнуўся гром.
І зь зямлі прапрадзедаў пагнала,
Бо мой бацька быў гаспадаром.

Ён і за мяжой служыў зярняці,
Будаваў царкву, дзяцей любіў,
І аклад іконам Божай маці
З дрэва нетутэйшага рабіў.

А дзядзькі палеглі ў Курапатах...
Нас-жа ўратаваў заморскі вір...
Зачарпну – і цяжкі, як граната
На магілах прадзедавых жвір.

Мне з сабой узяць казалі людзі
Жменьку ад магілы, што люблю,
Ды баюся – бацькавыя грудзі
Я зямлёю тою прапалю."

Скончыца праз трое сутак віза,
Зноў дзяцінства высахне рака,
Расплываецца смугою шызай
Разарваны лёс палешука.

# Белрок-н-рол-2 шукае выйсьця

Напрыканцы 80-х гадоў, калі цэнзура й прэсінг таталітарнай улады былі яшчэ моцныя ў БССР, а энэргія вольнай думкі ўжо віравала ў беларускіх галовах, знайшліся дзьве таленавітыя асобы – маладыя журналісты Вітаўт Мартыненка і Анатоль Мяльгуй – якія вырашылі хоць-бы й гвалтам праваць існуючы яшчэ бар'ер: яны напісалі кнігу, грунтоўны том у 240 старонак пра тое, пра што пісаць ім проста не дазвалялі – пра нацыянальныя аспэкты мас-культуры. Гэта быў вынік іхняга ўласнага дзесяцігадовага вопыту віртуозных хітрыкаў гульні між цэнзарскімі нажніцамі, апантаных спрэчак з апалягетамі таталітарнай журналістыкі (якія потым абселі нават газэту "Наша Ніва" і колісь вольнае радыё "Свабода"), якія даказвалі, што нібыта "традыцыйнай беларускай культуры чужыя ўсе праявы сучаснага жыцьця". Мартыненка і Мяльгуй пераканаўча давodзілі, што народу, які ня мае ўласнай нацыянальнай мас-культуры, наканавана страціць і ўвогуле культуру.

З сваёй кнігай Вітаўт з Анатолем абыйшлі ўсе беларускія выдавецтвы ("Беларусь", "Народная асьвета", "Вышэйшая школа", "Мастацкая літаратура", "Юнацтва", "Унівэрсытэцкае" і г. д., аж нават уключна з "Ураджаем"), але ўсюды напорваліся на цэнзарскае сіта: кнігу скарачалі, выкрыўлялі, перайначвалі, аддавалі на рэцэнзію не музыколягам, а камсамольскім функцыянэрам, але выдаць так і не рашыліся – надта рэвалюцыйнай і пераканаўчай была канцэпцыя нашых М & М, якая наўпрост замінала імпэрскай русыфікацыі краіны (і іншых "нацыянальных ускраінаў", бо там была гаворка і пра эстонскую мас-культуру, і пра грузінскую, і пра польскую, ды нават пра брытанскую і расейскую гаварылася менавіта ў нацыянальным аспэкце).

Рызыкуючы сваім лёсам, аўтары скарысталі шанец пераправіць свой машынапіс на Захад (хоць да 1990 году ў СССР яшчэ дзеяў закон, паводле якога за нелегальнае выданьне за мяжою пагражала да 8 гадоў турмы). У 1989 годзе кніга пад назваю "Праз рок-прызму" была выдадзеная ў ЗША пад грыфам выдавецтва "БІНіМ" ды нават трапіла ў каталёг Бібліятэкі Кангрэсу ЗША (№ 89-62683). Пакуль апалягеты таталітарнай журналістыкі накідваліся на яе ўсім цяжарам дзяржаўнай прэсы, ва ўнівэрсытэтах Варшавы, Беластока, Горадні ды нават Менску і... Мічыгану пісаліся ўжо навуковыя працы новага пакаленьня дасьледчыкаў нацыянальнай мас-культуры паводле кнігі "Праз рок-прызму". А ў 1992 годзе журналіст з ЗША Джэры Фолы ўзяў грунтоўнае інтэрвію ў Вітаўта Мартыненкі, якое потым друкавалася ў адным з штомесячнікаў Сан-Францыска разам зь рэцэнзіяй сп. Дж. Фолы на кнігу "Праз рок-прызму". Яно заняло аж дзьве старонкі фармату А4 (гл. Gerry Foley "Belarusian rock scene: how rock'n'roll is being used to preserve language, cultural heritage" у газэце "Socialist Action" vol. 10, № 12 за 12 сьнежня 1992 году, стар. 10-11).

За мінулыя 15 гадоў шмат што зьмянілася ў Беларусі. З чытачоў тае рэдкае, але пры жаданьні даступнае ў Беларусі кнігі вырасла цэлае пакаленьне новых музыкаў, выдаўцоў, рэцэнзэнтаў, якія паднялі нацыянальную мас-культуру на сур'ёзны прафэсыйны ўзровень: выходзяць дыскі, арганізоўваюцца буйныя канцэрты ў залях прэстыжнейшых палацаў і нават на стадыёнах. Не маўчалі гэтыя 15 гадоў і Мартыненка зь Мяльгуем: усе дзяржаўныя й незалежныя газэты й часапісы друкавалі іхнія нераўнадушныя, але заўсёды аб'ектыўныя і канструктыўныя рэцэнзіі на тыя дыскі, на канцэрты. Знакаміты прад'юсар Віталь Супрановіч неяк сабраў іх разам і адчуў, што больш поўнай і ўсеахопнай энцыклапэдыі нацыянальнай мас-культуры й не напішаш. Тады папрасіў М & М, гэтых жывых клясыкаў нашай музычнай журналістыкі, падрыхтаваць такі том. І яны зрабілі гэта.

"Праз рок-прызму 2" атрымалася яшчэ канцэптуальнейшым і жанрава вытрыманым прадуктам, з віртуозна распрацаванай структурай, а галоўнае – непараўнальна грунтоўнейшым паводле аб'ёму. Гэта 600 старонак тэксту з маляўнічымі відарысамі вокладак пра СОТНІ выключна беларускамоўных музычных выданьняў, што выходзілі ня толькі ў Беларусі, але і ў Польшчы, Вялікабрытаніі, Галяндыі, Францыі, Нарвэгіі, Канадзе, ЗША, Расеі... Новы том мэнэджэры назвалі кідкім брэндам "100 альбомаў беларускага року і... ня толькі". А ў гэтае *ня толькі* ўвайшла яшчэ сотня нярокавай музыкі: інструмэнтальная, ньню-эйдж, джаз, клясычная, бардаўская песьня... Вось вам і аргумэнт супраць чужынскіх захопнікаў беларускага радыёэтэру, якія нават Лукашэнку водзяць за нос, кажучы, што няма нічога свайго круціць на радыё.

Акрамя рэцэнзіяў (а ўсе яны прайшлі выпрабаваньне цераз масавага чытача ў прэсе) аўтары настойваюць на разьмяшчэньні каляровых уклеек з рэпрадукцыямі плякатаў, якія ў свой час рэклямавалі канцэрты беларускіх гуртоў у беларускім мэтро, на сталічных афішных тумбах, у замежных краінах (Польшча, Украіна, Нямеччына). Праект, нажаль, не фінансуецца дзяржаваю, а здрадніцкая палітыка беларускіх бізнэсоўцаў даўно вядомая (яны лепш укладуць грошы ў чарговы "мастацкі" наезд якога-небудзь раскручанага акупанта), дык вось і паўсталі праблемы з выданьнем кнігі. На стартавы тыраж паводле падлікаў адмысловцаў выдавецкае справы трэба найменш $5000 (пры найболып рэнтабэльным накладзе 2000 асобнікаў). Хто жадае паспрыяць гэтай справе ды зрабіць свой хоць-бы сьціплы ўнёсак ў нацыянальную мас-культуру можа зьвяртацца на электронны адрас: *w1979@tut.by* (Фонд кнігі 100 альбомаў беларускага року). Ахвярадаўцы будуць адзначаныя ў кнізе, а таксама атрымаюць асобнікі гэтай грунтоўнай энцыклапэдыі.

*Ян ГРЭСКІ*



**Шаноўныя чытачы!**
**Калі Вы яшчэ не аформілі падпіску на газэту "БЕЛАРУС" на 2005 год, то зрабіце гэта, калі ласка, як найхутчэй.**

НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Згурт. Бел. у Вял. Брыт. | 200 |
| П. Касаты | 150 |
| М. Латушкін | 100 |
| Я. Сажыч | 100 |
| Ю. Лапіцкі | 50 |
| К. Маталыцкі | 50 |
| У. Ракуць | 50 |
| У. Русак | 50 |
| С. Шабовіч | 40 |
| К. Ворт | 30 |
| А. Махнюк | 30 |
| Л. Навумік | 30 |
| Л. Норык | 30 |
| В. Цярпіцкі | 30 |
| В. і А. Шчэцька | 30 |

Заміж кветак на магілу Нюры РУСАК:

| | |
|---|---|
| Я. Арцюх | 50 |
| Н. Кіт | 50 |

Заміж кветак на магілу Юзэфы НАЙДЗЮК:

| | |
|---|---|
| Н.Кіт | 50 |

Усім шчыры дзякуй!


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
Сусьветнае сеціва: baza-belarus.org
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
Belsrusan American Ass'n, Inc.
Subscription $30 yearly
Make checks payable to *BIELARUS*

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.



Адрас для допісаў і кантактаў:
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
E-mail:
hazetabielarus@att.net
Сусьветнае сеціва:
www.bielarus.org

ISSN 1054-9455